– І газеты выпісваем... Мікітаву «Звязду» мне паштарка аддае. Можаце браць, чытаць.

– Можна падумаць, што я чытаць умею? Без акуляраў.

Нарэшце далі слова Гіршу Моцкіну, і ён расказваў, што новага ў Журавічах.

– Якаў Струкаў паехаў у Ленінград, дзе ў яго была да вайны кварцера, а прыехаў, а там ужо новыя людзі жывуць. Пахадзіў-пахадзіў ён па горадзе, ды ні з чым і вярнуўся да мацеры. Чужым стаў для яго Ленінград. Цяпер жыве не ў гарадской кварцеры, дзе круць-верць – і вада пацякла з кранціка, а ў такой, як і дурны Гірша Моцкін.

Калі ён загаварыў пра Ленінград, я ўспомніў Саныча, які ўжо паехаў дадому і сказаў неяк нам з Петрыкам, каб прыязджалі, толькі прасіў напісаць, і ён тады сустрэне на вакзале і дапаможа паступіць у любую школу фабрычна - заводскага навучання. Пакінуў нават адрас. Аднак, пакуль яшчэ ехаць, трэба не адзін пуд солі з’есці. А каб не гэты пуд, мы б хоць і сёння.

– Натансона які сабака не ведаў, не кажучы ўжо пра нас, людзей, – працягваў далей Гірша Моцкін. – Боты шыў лепш, чым у Крамлі для Сталіна... Прабач, госпадзі, дурному Моцкіну, не хацеў я ўспамінаць Крэмль і Сталіна, але што ты возьмеш з дурнога Моцкіна, акрамя аналізаў? То сын яго, Барыс, у Амерыцы жыве. Яго тады людзі схавалі, калі яўрэяў немец растрэльваў у сасонніку. Мог бы і Натансон уцалець, каб уцёк, як уцёк я. Не, кажа, не можа быць, каб нас немец няўзлюбіў, мы ж яму нічога не зраблі кепскага. А калі надумаўся бегчы, то было ўжо позна.

– Гады! – сказаў нехта.

– Не курыце, людзі добрыя, а то ў Гіршы Моцкіна ўсе лёгкія атручаны каніфолем і кузняй, далібог.

Глядзі ты, паслухаліся. Нават Тамаш, на што ўжо неслух, і той прыдавіў у гільзе з-пад зенітнага снарада акурак. Праўда ж: не прадыхнуць. У Гіршы Моцкіна такія фокусы не пройдуць. А то ж: расказвай ім, твары добрае, і за гэта яшчэ нюхай смярдзючы самасад. Не, не атрымаецца.

– Якраз Восіпу пашыў ён боты. Ведаеце Восіпа.. Той і кажа: колькі табе, Натонсон, за работу грошай? Гавары, не саромся. За такія боты не шкада. А Натонсон і слязы нават

не ўраніў, такі мужны чалавек быў, і адказвае: грошай мне, брат Восіп, не трэба тваіх аніякіх, а калі нашу сям'ю немец расстраляе, то закапаеш... і будзем у разліку. Такая мая просьба. І неўзабаве Восіп выканаў просьбу беднага Натансона. Дзе цяпер яго душа, гаротніка? І няхай хто паспрабуе пашыць лепшыя боты, чым шыў іх бедны Натансон? Няма такога ўмельца. І няскора будзе.

– Няма, гэта ты, Гірша, праўду кажаш, – пагадзіўся Тамаш.

У тую ноч я доўга не мог заснуць. Чамусьці думалася і думалася пра Натансога, якія шыў цудоўныя боты, і хоць ніводнага разу я не бачыў яго, аднак перад вачыма стаяў такі ж зарослы шчэцццем яўрэй, як Гірша Моцкін, толькі без сажы на лбе і вушах, бо ён, відаць, не быў жартаўніком і не званіў сваёй жонцы ў комін...

## 9. ПРЫВІТАННЕ, ПЯХОТА!..

Кастусь жыў шумна, навідавоку. Калі ён каго клікаў, то далёка было чуваць: яго голас каціўся рэхам, як хваля. Калі смяяўся – таксама роўных не было. І барацца мастак. Мікіта казаў, каб быў ён маладзейшым, то паклаў бы яго на лапаткі – і рабіць нечага. А так – даруйце: не той узрост. Калі рабіў нешта – паспрабуй паспей за ім. І ўсюды з жартамі, прыпеўкамі. Ведама ж, гарманіст. Я разумеў, што вясковыя жанчыны зайдросцілі Раісе, хіба ж не відаць. Заставалася радавацца за яе і мне, бо дзядзькі Сцяпана з вайны ўжо не будзе – пахавальная, значыць, не хлусіла: загінуў... А маленькі Сцяпанка яшчэ ляжыць у люльцы і толькі лыпае вачыма, а мне нават адзін раз усміхнуўся і памахаў маленькай рукой, нібыта павітаўся . Я забег да цёткі Раісы, калі, вядома ж, не было ў хаце танкіста. Захацелася маленькага Сцёпку пабачыць. Не ведаю, чаму, але ў нас з танкістам па-ранейшаму не было дружбы, і я стараўся менш сутыкацца з ім твар у твар: калі ўзяў Раісу ў жонкі, то хай асабліва не зазнаецца. Гэта яму пашанцавала, што я пазней нарадзіўся, а то б тады паглядзелі, хто каго. Што тут не зразумелага!

А неяк Раіса папрасіла мяне, каб я з'ездзіў з Кастусём на балота і дапамог яму прывезці дроў. Яшчэ і папытала, строга так і нават, як падалося мне, крыху здзекліва ці

што: «Зможаш? Ці дзядзька Хвядос не адпусціць?» Гэта толькі жанчына, такая , як Раіса, і можа апусціцца да такога, каб папытаць, адпусціць мяне на балота дзядзька Хвядос ці не. Ды яшчэ цётка Матруна. Тая дык і зусім кроку не дае ступіць самастойна. Два боты – пара. А хто яму, калі на тое пайшло, дзядзьку Хвядосу, у лесе цэлы арсенал зброі перадаў? Не сам жа з неба той зваліўся. А калі мы зброю шукалі, то мяне з Петрыкам ніхто за руку не вадзіў. Трэба ж дадумацца: а ці адпусціць дзядзька! Ды яшчэ з танкістам, які мне і нялюбы чамусьці…. ды вядома ж – чаму. І я паабяцаў Раісе, што дапамагу прывезці дроў, а то Сцяпанку зімой холадна будзе, яна падзякавала, а назаўтра за мной заехаў Кастусь на калёсах, паляпаў у шыбу:

– Пад’ём, пяхота!

Калі ўжо сам танкіст, то ўсе астатнія для яго, бач ты, пяхота. Гэта мы яшчэ паглядзім. Можа мяне і зусім на флот возьмуць служыць. Ці ў лётчыкі. Ды і мог бы не ляпаць у шыбу, бо калёсы так тарахцелі, што толькі глухі не здагадаецца, хто сядзіць на іх і паганяе каня. Танкіст, канешне ж! Ён танк, не інакш, пераблытаў з калёсамі.

Пакуль ехалі, Кастусь мумкаў пад нос франтавыя песні і хваліўся, як падбіў варожы танк, а каб не быў кантужаны, то было б тое самае і з іншымі танкамі, што трапляліся б на яго баявым шляху. Вось так. Ні больш ні менш.

– Я механік-вадзіцель, Колька! Гэта табе не абы-хто, а другі чалавек у экіпажы, пасля камандзіра.

Забыў папытаць я ў яго, колькі чалавек усяго ў тым танку экіпаж, мо тры, то няхітра другім быць, і я б змог. Хацеў зрабіць гэта пазней, калі будзем вяртацца назад з дрывамі, аднак тое, што адбылося, перавярнула ўсё ўверх дагары нагамі ,і, падалося, на ўсё балота ўпала неба… знянацку і раптоўна абрынулася , я адзічэла крычаў, бегаў вакол Кастуся і не ведаў, што мне рабіць. Ён неяк дзіўна глядзеў на мяне, быў увесь у крыві, твар і адзенне пасечаны асколкамі , глядзеў і не тое скрывіўся ад болю, не тое ад таго, што не мог і сам зразумець, што з ім адбылося. І быццам пытаўся ў мяне: Колька, дык што гэта? А з жывата вываліся ўсе вантробы, і як гэта я раней не

ўбачыў, ляжаць у яго на каленях і пара з іх ідзе... як дым. Я ўтаптаў, не помню як, вантробы назад і дапамог нарэшце беднаму танкісту ўзабрацца на калёсы, легчы, і так паганяў каня шпарка, з усіх капытоў, што той неўзабаве стаў мокры – бы ў лазні пабываў... Але паехаў я не ў вёску, а ў мястэчка – у бальніцу. І як дадумаўся да такога, і сам не магу зразумець. Потым дзядзька Хвядос пахваліў мяне:

– Малайчына, што здагадаўся... Калі б яшчэ колькі хвілін, казаў доктар, і, магчыма, не было б Кастуся. Добра, што ты не дамоў яго, а адразу ў бальніцу... Кемлівы, аднак. Хвалю. Ну, а цяпер раскажы ўсё, як было.

А што тут расказваць? Сekануў Кастусь па кусту сякерай з усяго размаху – і грымнуў выбух, скалануў наваколле...

– Значыць, міна ... – здагадаўся дзядзька Хвядос. – Наша ці нямецкая – цяпер ужо ўсё роўна, аднак танкіста шкада: на вайне ўцалеў, а дома, у мірны час, не ўбярогся. Лёс такі, значыць, у чалавека. Знявечыла хлапца міна. Пальцы паадрывала. Твар пакрэмсала. Жывот распарола. Але жыць будзе.

Не помню, колькі часу мінула, калі мы з танкістам на балота па дровы ездзілі, аднак Раіса сказала, што ўчора хадзіла да Кастуся і ён перадае мне прывітанне. Выкарабкаўся, адкараскаўся ад смерці. Жывучы Кастусь, нічога не скажаш, бо як успомню, які быў адразу пасля выбуху – мне і сёння робіцца жудасна і застаецца толькі здзіўляцца, што дактары змаглі выратаваць яго. А калі ён такі жывучы, то і добра: будзе і ў нашай Гуце свой гарманіст, не горшы за іскансkага Аркашку. Абяцаў жа граць на Грышкавай прызбе. «Вось толькі Сцёпка падрасце!» Можа, і мне збегаць да яго? З Петрыкам? Танкісту весялей будзе. Лекі лекамі, але і мы нешта значым. Дзядзька Хвядос даведаўся, што мы пойдзем праведаць Кастуся, і таксама ўвязаўся за намі. Яшчэ і напомніў:

– Не забудзьцеся ж, жэўжыкі, мяне.

– Не забудзем, – паабяцаў я, а самому радасна зрабілася: яшчэ больш абрадуецца, канешне ж, танкіст, калі ўсіх нас ён убачыць.

Дзед Грышка пашкадаваў, што не даклыпае да бальніцы, аднак прывітанне перадаў.

Без дзеда Грышкі ў нашай Гуце , здаецца, нічога не бывае.

Доктар дазволіў прайсці ў палату. Кастусь як толькі ўбачыў нас, пастараўся ўсміхнуцца:

– Прывітанне, пяхота...

Каб ён не нагадаў нам пра пяхоту, я б ні за што не паверыў, што пад бялюткай коўдрай ляжыць танкіст. Уся галава забінтавана, толькі вочы ды рот...

Не адразу адказаў на прывітанне яму і дзядзька Хвядос – таксама, відаць, думаў: Кастусь гэта ці хто?

Праклятая міна!

А мне яшчэ падумалася, толькі я пра гэта нікому не сказаў: за такога Кастуся , які ляжаў на бальнічным ложку , Раіса ніколі б замуж не пайшла.

Ад гэтага мне яшчэ больш зрабілася яго шкада.

І не толькі, відаць, мне...

## 10. ДВА ТРАФЕІІ

Дзед Грышка касіў у канцы агарода траву, а ў той самы час каля нашай хаты і з'явіўся ягоны сын Пятро. У такой жа форме, у якой прыйшоў тады з вайны дзядзька Хвядос, у адной руцэ ён трымаў туга набіты рэчавы мяшок, а ў другой піскЛявы зграбны скрутачак – нёс дзіця. Дзед Грышка яшчэ даўно хваліўся: «Мой Пецька без трафею дамой не вернецца. Ён такі. Разумець трэба». Вось мы з Петрыкам і разумеем: маленькая і худзенькая жанчына, што ідзе побач з Пятром і раз-пораз заглядвае, не прыпыняючы хады, у той скрутачак, нешта папраўляе там і гаворыць немаўляці, – гэта асноўны трафей. А што ў скрутку піскЛявае – другі. Так што дзед Грышка пралічыўся – не з адным трафеем вяртаецца з вайны сын, а з двума. І мы, толькі ўбачыўшы Пятра і ягоныя трафеі, шуганулі напрасткі праз агароды, каб паведаміць старому, што нарэшце ён дачакаўся, каго чакаў. Дзед Грышка выслухаў нас, а тады спакойна, нібыта кожны дзень такое бывае ў яго, сказаў, уторкнуўшы з усяго размаху касcё у дол:

– І дакасіць не дадуць, чэрці!..

А сам, забыўшыся пра нас, похапкам пачыкільгаў на свой двор, забег у хату і пачаў растаўляць табурэткі , хоць тыя стаялі, а не ляжалі, змахнуў хлебныя крошкі са стала ў шурпатую жменю і адразу ж пракаўтнуў іх, а тады паглядзеў на нас і гыркнуў:

– А вы чаго раты паразяўлялі і не дапамагаеце? Варушыцеся, маць вашу!..

А што яму дапамагаць – не кажа: зусім прапалі словы ў старога. Анямеў ад навіны. Ды і позна дапамагаць: Пятро з трафеямі ўжо на двары, праплыў перад акном. Дзед Грышка выпраміўся перад сынам, не дыхае і вокам не міргне. А Пятро грымнуў на ўсю хату:

– Бацька-а!

Паклаў скрутачак на ложак і згроб дзеда Грышку, заціснуў у абдымках, і на вачах абодвух мы бачым слёзы. Нагледзеліся мы слёз, гэтым нас не здзівіш.

– Вярнуўся, бацька...

– Касіў я... каса там... хлапцы, прынясіце... ага... – шаптаў дзед Грышка і шморгаў носам. – Трава лезе на агарод, каб яе пранцы... Ну дык што ж мы стаім? Знаём з Зінкай.

Можна падумаць, што мы адразу ж і кінуліся за касой. Каму яна трэба сёння, каса тая? Не кожны дзень з вайны прыходзяць землякі, і нам карціць паглядзець на ордэны і медалі, што трэнькаюць на грудзях Пятра. Не менш – і на Зінку, пра якую дзед Грышка вушы ўсім пратрубіў. Дробненькая, нібы дзяўчо. Надзейка і тое вышэйшая . Але больш за ўсё нам хочацца зазірнуць у той скрутачак , які ў хаце супакоіўся, маўчыць і толькі зрэдчас варушыцца.

– Не маглі раней прыехаць, – тлумачыць Пятро і глядзіць на скрутачак.–- Зінка дачку нарадзіла. Таму ў горадзе пажылі крыху, у яе маці. Так што не крыўдуй за затрымку – такая сітуацыя, што не атрымлівалася. І раджаць трэба, і ехаць да цябе – у адзін час ўсё... супала так.

– Ты думаеш , я тут прапаў бы, – дзед Грышка харахорыцца, паказаў вачыма на нас. – Хлапцы вось , калі трэба, і вады прынясуць, і торфам забяспечылі. І так пасядзяць у хаце са мной. Пра жыццё пагамонім. А як жа. Іншы раз папрашу, каб і пісьмо ад цябе прачыталі. Прачытаюць. Па першаму закліку.

Я спалохаўся: а калі ён успомніць яшчэ пра запалкі? Во будзе сарамацця перад салдатам – на ўвесь белы свет. Але добра, што дзед Грышка прамаўчаў. Ці ў яго памяці няма, ці не пажадаў нас выдаваць. Хоць, калі разабрацца, мы ж для яго стараліся. Адным словам, малайчына.

Пятро ж пахваліў нас, а тады пачаставаў цукеркамі і даў па камяку цукру. Цукеркі мы з'елі адразу , а цукар рашылі аднесці дамоў – будзе цяпер з чым чай піць. Калі патрохі адкусваць – надоўга хопіць.

І яшчэ Пятро даў нам вялікую бліскучую капейку, на якую, сказаў, што хочаце, тое і бярыце ў краме.

Неўзабаве ў хату набілася багата людзей. Лізавета, канешне ж, першая прыбегла, за ёй Варка, а тады прыйшлі і мужчыны, сярод іх быў Тамаш. Ён абняў Пятра і заплакаў. Нічога не сказаў. А Лізавета прыгадала бабку Антосю і пашкадавала, што тая не дажыла да гэтага шчаслівага дня. Во рада была б. Мы гэта і самі ведаем. Але гаворыць і няхай гаворыць. Нешта ж трэба, мусіць, ім і гаварыць, цёткам ды дзядзькам. Не ўвесь жа час плакаць. Хопіць, наплакаліся.

Увечар на Грышкавай прызбе зноў граў гармонік, а нас не выганіш з хаты. На прызбе нам не было сёння чаго рабіць: мы важна сядзелі за сталом нароўні з дарослымі, нават бліжэй, чым хто, да дзеда Грышкі і Пятра, і слухалі розныя байкі пра вайну. Я толькі разы два паказаўся на танцульках – няхай бачаць, дзе мы з Петрыкам. І заслужана. Як торф заносіць у хлеў дзеда Грышкі ахвотнікаў не было, то няхай цяпер хоць паглядзяць, што з гэтага атрымалася. Надзейка таксама дапамагала, аднак яна не пойдзе ў хату. Сарамлівая. Яе справа. А на мяне ўсё ж паглядае. Крадком. А потым адразу хавае вочы. Зайдросціць, каму тут не зразумела. Мне і Петрыку сёння ўсе зайдросцяць. І чакаюць, калі мы нарэшце назусім, а не будзем шмыгаць туды-сюды, выйдзем на прызбу, бо без нас і танцы не танцы. Цяпер, калі паехаў у Ленінград Саныч, паступілі вучыцца на гарадскія прафесіі некаторыя нашы хлопцы, то мы тут галоўныя танцоры.

Танцулькі пачакаюць. Трэба пасядзць за сталом і паслухаць, што будзе ў нашай Гуце заўтра і паслязаўтра, калі вернецца дзядзька Мікіта і прывязуць на кані Кастуся

з бальніцы. За Кастусём мы таксама паедзем. Абавязкова. Не прапусціць бы. Заадно і ў сталоўцы падсілкуемся . Ніколі не елі мы ў гарадской сталоўцы, а там, кажуць, смачна падаюць. Каша – пальчыкі абліжыш. Нават катлеты і смажаныя кілбаскі ёсць. Папытайце, калі не верыце, у дзеда Грышкі. Ён, калі быў маладзейшым, часта бегаў у мястэчка – баба Антося думала, што ён знайшоў для сябе там новую цётку, а дзед – ныр у сталоўку. Сам расказваў. Праўда, браў і куфаль піва. Піва нам не трэба. Ну яго. Нам добра будзе каша, а калі хопіць той капейкі, то катлеты і кілбаскі таксама не пашкодзяць.

А цяпер дарослыя спрачаюцца, хто б мог выдаць Мікіту, і чамусьці ўсе падтрымліваюць Тамаша, што гэта нашкодзіў Лізавецін прымак, і калі раней цётка абараняла яго, то цяпер маўчыць. Як вады ў рот набрала. Нехта паказаў і ў бок Гіршы Моцкіна, бо той нездарма абжыў кузню – ён гэтага толькі і дабіваўся, каб прагнаць з яе каваля. Вось і наплявузгаў.

Дзядзька Хвядос заступіўся за Гіршу Моцкіна, сказаў, што трэба пачакаць крыху, а там стане ўсё на сваё месца: высветліцца...

Пачакаем і мы. Нам няма куды спяшацца. Асабліва калі ў школу толькі.

У школу мы любім хадзіць. Там можна не толькі нешта цікавае даведацца, а спадцішка тузануць за касу і Надзейку...

## 11. ЭПІЛОГ

Дзядзька Хвядос гладзіў печ рукой, пяшчотна і з замілаваннем, і гаварыў ёй, як жывы жывому:

– Ты, печ, жанчына. І табе, бачу, сумна адной. Пагаварыць няма з кім, языкамі памянціць – ну, а як жа: жыццё ёсць жыццё, тут ні ўбавіць, ні прыбавіць. Заўтра я табе жанчыну прывяду, Моцяй зваць. Будзеце разам і варыць, і на чарэні грэць нас, мужчын. Мужчын таксама прыбавіцца. Ты помніш Петрыка добра. Як жа. Свой чалавек Петрык. Так што, печ, з заўтрашняга дня табе весялей будзе. І нам усім, заўваж. Раніцай запражэм каня, і прывязем гаспадыню з усім яе няхітрым скарбам у нашу

хату. Адабраеш мяне, печ? За разуменне дзякуй табе. Дзякуй.

Мне пачулася, нібы печ адказала дзядзьку Хвядосу...

Назаўтра мы з Петрыкам перавезлі ўсе яго рэчы, а цётка Матруна прыйшла сама. Топчацца па хаце, праўда, без ручніка на плячы, бадзяецца з кутка ў кут, быццам месца сабе не знаходзіць, і ці тое ад радасці, ці тое ад чаго – плача. Плачаш, дык плач: дзядзьку Хвядосу няма калі яе супакойваць, на ім увесь калгас, ды трэба і новага дырэктара адвесці ў Петрыкаву хату – ён будзе жыць там. Петрыку пашанцавала, нічога не скажаш: іншы раз ён можа і забегчы ў сваю хату, быццам нешта забыўся там, а заадно і новаму дырэктару лішні раз паказацца на вочы, таму можа нават выбіцца і ў выдатнікі.

Заўтра трэба ехаць за Кастусём у мястэчка, а ў нас бяда стрэслася: Лізавецін сабака Шарык праглынуў, забаўляючыся, нашу вялікую капейку, за якую мы збіраліся паабедаць у сталоўцы, і мы прывязалі Шарыка на сваім двары. Ці паявіцца на свет божы капейка да раніцы? Не вытрасеш жа яе з Шарыка. Сабака спярша скуголіў, рваўся да брамы, аднак супакоіўся – змірыўся са сваім лёсам. Так яму і трэба. Не будзе глытаць чужыя капейкі. Пакуль не вернеш нам Пятроў падарунак, сядзі на ланцугу. Можа паразумнееш. Не хапала яшчэ, каб згубіў дзе-небудзь нашу капейку пасярод вуліцы ці ў лесе. Усюды ж шастае.

Сядзець, Шарык. І не чырыкаць.

Мы таксама сядзім на двары і чакаем. А то наляціць якая сарока на бліскучае, і пішы тады прапала.

А нам вельмі хацелася гарадской кашы.

З акрайцам белага хлеба.

## ЦАР-ДУБ

1

Позняй восенню 1075 года князь чарнігаўскі Уладзімір Манамах паехаў на паляванне на берагі маляўнічай ракі Убарць, дзе ў лясах вадзілася шмат дзічыны.Як нярэдка бывала і раней, князь браў з сабой на паляванне і падрастаючага сына Мсціслава, якому не прамінаў гаварыць: «Загартуеш сябе паляваннем, не страшна і на полі бою будзе. Не спалохаешся дзіка—і полавец будзе не страшны».

Князь Манамах любіў адпраўляцца на паляванне раптоўна, знянацку—быццам бы ладзіў нейкія іншыя справы, а потым клікаў да сябе цівуна, ставіў яму задачу, першым усковаў на каня, а за ім – і ўся яго дружына. Па дарозе князь, каб з большай карысцю скарыстоўваць час, цікавіўся, што і як расце на палях, заглядваў у клеці і свірны, іншы раз заходзіў і ў хаты смердаў, пытаўся, ці не крыўдзяць іх ягоныя людзі. Бо князь разумеў: зямля трымаецца на смердах і халопах, і калі яны разарацца—будзеш даведзены да галечы і сам.

Паляванне на берагах Убарці князю Манамаху на гэты раз не ўдалося—раз’юшыны дзік сарваў з бядра князя меч, і пакуль яму падалі новы, той вострыміікламі пакусаў каня за ногу . І збег на вачах у разгубленых ахоўнікаў.

– Няхай жыве,– паглядзеў князь услед дзіку і загадаў цівуну падаць яму торбачку з жалудамі.–Тут многа дзікоў водзіцца, а дубоў расце мала. Дзікам няма ежы. Яны галодныя і злыя. Будзем садзіць дубы.

Князь зняў з галавы шолам, перасыпаў туды жалуды і паўтарыў на гэты раз больш гучна і цвёрда:

– Будзем садзіць дубы!

Кожны падыходзіў да князя, запускаў руку ў шолам, браў свой жолуд. Першы жолуд закапаў у зямлю сам Манамах. А вяртаючыся з палявання , гаварыў сваім людзям:

– Дубы няскора выраступь і пачнуць атрасаць на зямлю жалуды. Але нашчадкі нам дзякуй скажуць, бо сёння мы зрабілі добрую справу…

Дубкоў у лесе вырасла шмат, але ўсіх іх абагнаў адзін дубок—той, што быў пасаджаны самім князем Уладзімірам Манамахам. Пражыў той дуб амаль пяцьсот гадоў, а калі

памёр, то побач з ім, трухлявым, пацягнуўся да сонца тоненькі дубок – сынок таго вялізнага , магутнага дуба. І вырас гэты дубок яшчэ больш тоўстым і высокім, чым ягоны бацька.

Калі сёння ўзабрацца на той дуб, то далёка відаць усё наўсцяж. Палі, лясы, азёры, рэкі... Прыгажосць! Як і марыў князь Манамах, да гэтага дуба прыходзяць дзікія кабаны, падбіраюць вялікія—з указальны палец дарослага чалавека акурат—жалуды, апетытна хрумстаюць. І адкуль ім, дзікам, ведаць, што некалі жыў грозны і адначасова добры князь на Русі Кіеўскай Уладзімір Манамах, і што гэта ён даўным-даўно паклапаціўся, каб ім было больш сытна сёння.

Не ведаюць яны, дзікі, і пра тое, вядома ж, што прыходзяць сілкавацца не проста да дуба, а—да Цар-Дуба.

2

Праехаць да Цар-Дуба аказалася справай нялёгкай. Прайшлі на Палессі зацяжныя восеньскія дажджы, і яны нарабілі клопату—сапсавалі ўшчэнт дарогу, якая і да іх, дажджоў, не надта была добрай: яміны, разбітыя коламі трактароў і грузавікоў каляіны... І ўсцяж заліта ўсё гэты раз вадой. А праехаць да Цар-Дуба трэба абавязкова – Пятро Мікітавіч Аўдзееў даў слова ўнуку Мікітку паказаць яго, а калі даў, то і стрымаць належыць. Ехалі ж сюды яны здалёку—ажно з Харкава, гэта горад такі ёсць на Украіне, куды закінуў пасля вайны лёс маладога беларускага хлопца, там Пятро скончыў вайсковае вучылішча, пакахаў украінскую дзяўчыну Ганку, і вось цяпер яна, ужо Ганна Сідараўна, праводзіла іх абодвух, дзеда і ўнука, у няблізкую дарогу, хвалявалася вельмі: ці даедуць жа яны да таго дуба, ці знойдуць? Яшчэ Ганна Сідараўна баялася, што шмат часу прайшло з тае пары, то і дуба , пэўна ж, ужо даўно няма. На што дзед адказаў упэўнена і пераканана: «Ты, бабуля, не ведаеш аднаго—той дуб немец не змог знішчыць, каб знала, не толькі што!.. Ён—помнік, ахоўваецца дзяржавай. Ды і малады яшчэ той дуб—яму ўсяго пяцьсот гадоў дзесьці...» А Мікітка, слухаючы дзеда, здзівіўся не на жарт: «Нічога сабе малады! Уго-о!» І таму

яму яшчэ больш карцела паехаць да Цар-Дуба ў госці. Хутчэй бы. А неяк дзед і сказаў унуку:

– Збірайся, Мікіта. У цябе якраз вакацыі... Я чаму цябе да дуба хачу цяпер звазіць, глыбокай восенню? Не здагадваешся?

– Не-а,– шчыра прызнаўся хлопчык.

– Каб ты паглядзеў, якія вялізныя жалуды вырастаюць на тым дубе. А ўбачыць іх можна толькі ўвосень. Уражваюць, нічога не скажаш, жалуды Цар-Дуба. Надта ж вялізныя! Ды што я табе іх расхвальваю? Сам убачыш.

І вось цяпер яны спыніліся на ўскрайку лесу, вырашаюць, што рабіць далей. Таксіст, схадзіўшы на разведку дарогі, вярнуўся пахмурны, пакруціў галавой:

– Не прайду...

Дзядуля разлічыўся з таксістам, той падзякаваў і набіваўся прыехаць за імі, каб забраць і адвезці назад у Лельчыцы на аўтастанцыю, але Пятро Мікітавіч адмовіў яму ў такой паслузе, спаслаўшыся на тое, што яшчэ невядома, колькі яны прабудуць тут, у Данілевічах. Данілевічы—не проста вёска, гэта радзіма Пятра Мікітавіча, і ён дакладна не ведаў, калі яна адпусціць яго, аднак быў упэўнены—толькі ні сёння.

Таксіст гыркнуў маторам, і неўзабаве «Волга», валюхаючыся на выбоінах, пакіравала міма бульбянога поля, на якім шчыльна стаялі featureнакаляровыя сцяжкі на калках – каб адганяць дзікоў, якіх у гэтых мясцінах процьма, а любяць яны не толькі жалуды і карэньчыкі раслін, але і самую звычайную бульбу.

Пра сцяжкі і дзікоў Мікітку расказаў дзядуля, а потым яны пагледзелі адзін на аднаго, падхапілі свае рэчы з зямлі, і моўчкі пайшлі па вузкай лясной дарозе.

Куды ж яшчэ – да Цар-Дуба!

***

Ну, вось: успомнілася, нагарнулася, бы хваля на цёплы марскі бераг, мінулае. Пятро Мікітавіч, а тады проста Петрык, такі ж дасціпны хлопчык, як сёння яго ўнук Мікітка, таксама шмат гадоў назад ішоў па гэтай лясной дарозе – тады толькі яна, здавалася, была больш шырокай, а дрэвы—таўсцейшымі і вышэйшымі. Ішоў не адзін—з

сябрукамі, Рыгоркам і Сашкам. А вось на тым полі, дзе сёння стаяць сцяжкі на калках, было некалькі капцоў бульбы. Чыя бульба—яны, дзятва, не ведалі, але ж ім вельмі хацелася есці. І ўсё б нічога, набралі яны б той бульбы, напяклі б яе на вогнішчы і наеліся, але толькі раскалупалі адзін капец—той, што быў бліжэй да дарогі—калі і пачулі траскатню матацыкла... Хавацца не сталі: гэта ж немцы, трэба ім тая бульба! Яны уго што ядуць! Бачылі. Аднак жа не—не паспелі хлопцы накідаць і паўторбачкі бульбы, калі матацыкл спыніўся якраз перад імі. Пра што гергеталі немцы, малечы было не чуваць, але можна было здагадацца, што мала ім зараз не будзе за тую бульбу. Так і ёсць—адзін немец нават нацэліў на іх аўтамат, а другі... Вы б бачылі, што зрабіў другі – ён так моцна прыклаўся да твару кулаком напарніка, што той ледзьве не паляцеў вобзем, пахістаўся-пахістаўся, але нейкім цудам утрымаўся на нагах. Як неваляшка. Пасля гэтага больш не паграджаў дзецям аўтаматам, але ж злосць усё роўна спагнаў, гад—пазапіхваў іх усіх у люльку матацыкла, і патарахцелі...

Два тыдні, а можа і больш, Пецька, Рыгорка і Сашка былі ў канцлагеры Азарычы. Як уцяклі—Пятро Мікітавіч сёння і сам патлумачыць такое не можа, але унуку прызнаўся:

– Смелыя, відаць, былі. І знаходлівыя.

3

Вясна ў 1943 годзе выдалася дружная—снег сышоў хутка, неўзабаве зазелянела траўка на мурагах, праклюнуліся лісточкі на дрэвах, і стаяў у лесе такі птушыны пошчак, ажно не верылася аніяк Петрыку, што ідзе вайна.

Хлопчык сядзеў на дубе, на самым тоўстым суку, звесіўшы ногі, і глядзеў у той бок , адкуль звычайна патыкаюцца ў лес немцы. Сёння іх не відаць. А хай бы паспрабавалі! Мала б не было!

– Ну што там, Петрык? Ціха? – сумна, відаць, унізе, пад дубам, і партызану Кавалькову.

– Ціха,– пазяхае і Петрык.

Партызан Кавалькоў ужо стары, сам на дуб ўзабрацца не можа, таму на заданне ўзяў з сабой Петрыка. А хлопчыку і добра. Чым збіраць дровы ў лесе, каб гатаваць

ежу, ці чысціць анучай пасля бою каму-небудзь зброю, дык лепш ісці з партызанам Кавальковым у дазор. У дазор дазваляецца браць і зброю. А як жа! І Петрыку далі карабін, але паколькі з ім на дуб не ўскараскацца—чапляецца, хоць ты трэсні!– ствол за голле, замінае, таму карабін стаіць на зямлі, прыткнуты да дуба, і за ім—па вялікай просьбе Петрыка—наглядае партызан Кавалькоў. Ён майструе самакрутку, зараз засмярдзіць самаробным тытунём, і хлопчык загадвае яму:

– Адыдзі, дзядзька, ад дуба. Не псуй паветра.

Партызан Кавалькоў спярша агрызаецца, прыгадвае сваю жонку, параўноўвае з ёй Петрыка, але усё роўна слухаецца, сядае крыху паводдаль ад дрэва, смаліць і паглядае, вядома ж, за Петрыкавым карабінам, а заадно хваліцца, што яшчэ раней, калі не было ў партызанскім атрадзе хлопчыка, ён не тое што хадзіў на самыя важныя баявыя заданні, але і быў старшым групы. Што быў старшым над партызанамі, гэта ён асабліва падкрэслівае. Аднак Петрыку усё роўна неяк: старшы—не старшы... Партызан Кавалькоў нарэшце глядзіць угору, шукае вачыма на дубе Петрыка, гамоніць:

– Вось табе, бачу, не цікава: чаму гэта я быў старшы над групай партызан, а цяпер не? Не цікава, не?

– Ну, чаму? – глядзіць уніз хлопчык, знаходзіць вачыма партызана Кавалькова: той усё яшчэ пыхкае дымам, бы самавар парам.—Хоць, калі па праўдзе, то вы ж, дзядзька, і цяпер старшы. Надо мной.

– Хе, над табой!– весялее партызан Кавалькоў, голас у яго робіцца больш звонкім, сакавітым.–Не той размах, панімаш!.. Не той, брат Пятро! У маім падпарадкаванні было да дванаццаці чалавек адразу... А гэта ўжо гурт! Кулак! Арцель, калі хош!.. А цяпер ты адзін. І тое далёка ад мяне—на дубе сядзіш. Яшчэ і мне, камандзіру, загадаў сцерагчы тваю зброю. А па вялікаму рахунку, то ты маю зброю павінен ахоўваць, ты! Га? Атрымліваецца, што я і зусім не старшы сёння—нават над табой.

– Немцы!– раптам крыху не сваім голасам паведамляе Петрык, не кожны ж дзень ён у дазоры, тым больш, што бачыць немцаў на матацыклах.–Немцы... Дзядзька, чуеш? Сюды, здаецца, пруць!

– А то ж!– усхопліваецца, бы віхор, партызан Кавалькоў, уцёр абцасам ботаў недакурак у зямлю.– Працягвай наглядаць за імі, а я пабег... Ды не пападзіся ж, неслух! Вышэй, вышэй лезь... З зямлі цябе не ўбачыш.

– Я і так высока.

– Глядзі тут!..

І партызан Кавалькоў, прыхапіўшы і Петрыкаў карабін, нырае ў гушчар, і толькі бачылі яго. А хлопчык, і праўда, забраўся крыху вышэй, там такое густое галлё, што сядзіш, бы ў сапраўднай схованцы.

Немцы былі ўсё бліжэй і бліжэй. Петрык нават добра бачыў твар таго немца, што сядзеў у люльцы другога матацыкла—ён, у адрозненне ад астатніх, быў не ў касцы, а ў фуражцы. Афіцэр, значыць.

4

Обер-лейтэнант Лотар Шмейхель зняў з галавы фуражку, а замест яе усторкнуў каску: так надзейней, бо ў лесе ад тых народных мсціўцаў усяго можна чакаць. І кулі, зразумелая справа.

– Бачу дуб,– сказаў першы матацыкліст.

– Карашо,– кіўнуў галавой у касцы обер-лейтэнант, потым ён дастаў з бакавой кішэні мундзіра фотакартку, складзеную ўдвая, яшчэ раз паглядзеў на яе. На фотакартцы быў Цар-Дуб. На поўны свой рост гэтае магутнае дрэва у кадрык адразу трапіць ніяк не магло, таму нямецкі салдат- фатограф, які пабываў тут увосень мінулага года, пстрыкаў камерай некалькі разоў, а потым , ужо ў лабараторыі, наклейваў часткі дуба, што былі на плёнцы, адна да аднае, і атрымалася, нарэшце, тое дрэва, якое і трэба было паказаць самому Гітлеру. Гітлер, паглядзеўшы на картку, ускінуў бровы, абрадаваўся і нараспеў выгукнуў: «О-о! Гут,гут!» А потым сказаў, каб чулі ўсе, хто стаяў побач з ім:

– Гэты дуб абавязкова трэба даставіць у Германію такім, якім ён ёсць. Мы здзівім свой народ. Мы пакажам яму гэтае магутнае дрэва, каб ён мог пераканацца, якую вялікую і магутную краіну мы заваявалі! Хайль!

І вось цяпер, калі сышоў снег, обер- лейтэнант Шмейхель падрульваў з аховай на матацыклах да Цар-Дуба, каб

на месцы разабрацца, як выдраць з зямлі гэтага волата, ці магчыма ўвогуле такое. Заданне ёсць заданне—яго трэба выконваць. Але як? Лёгка сказаць – даставіць дрэва на нямеччыну. Аднак жа няма ў фюрэра такой тэхнікі, на якой можна было б яго давезці. Няма. І, канешне ж, добра дубу, што няма.

Немцы здарожыліся, заглушылі матацыклы, і доўга моўчкі хадзілі каля Цар-Дуба, задзіралі галовы ўгору, захапляліся дрэвам. Потым яны фатаграфаваліся каля дрэва, выпівалі і закусвалі, а калі сабраліся ўжо ад'язджаць, то обер-лейтэнант, напаследак змерыўшы дрэва позіркам, сказаў:

– Толькі адно выйсце тут—пракласці сюды вузкакалейку ад Прыпяці, ці наадврот – ад дуба да ракі, і даставіць волата водным шляхам. Іншага выйсця няма.

5

Петрык крыху ведаў нямецкую мову, вучыў у школе, таму калі пачуў, што немцы быццам бы хочуць забраць да сябе гэтае магутнае дрэва, на якім ён сядзіць зараз, то ледзьве не зваліўся на зямлю. Бачыце, да чаго дадумаліся! Не-е, Цар-Дуб і самім трэба, дулю фрыцам. А дзе ж партызан Кавалькоў носіцца? Ці паспеў паведаміць у штаб? А калі паведаміў, то чаму ж тады яны паехалі такія задаволеныя! Эх, пальнуць бы па іх, каб больш на гэтае дрэва не замахваліся. Але нічога, нічога. Усяму свой час. Атрымаеце на сухары. Пертык нават і рады быў, што не дарэмна страху нацярпеўся: а няго ж, хіба так проста сядзець на дрэве, пад якім ходзяць немцы, ды яшчэ галовы задзіраюць, бы не дрэвам захапляюцца, а яго вышукваюць? Цяпер ён ведае, чаго прыязджалі сюды ворагі. Хутчэй да камандзіра, а то на партызана Кавалькова толькі спадзявайся!

Хлопчык злез нарэшце з дрэва і подбегам паімчаў па лесе—ён ведаў, куды. Хутчэй, хутчэй, хутчэй! Ага, хто гэта? Так і ёсць: партызан Кавалькоў. Партызан Кавалькоў ішоў не адзін –з партызанамі.

– Што, Пецька?– папытаў, наставіўшы на яго зацікаўленыя вочы, партызан Кавалькоў.

– Упусцілі,– Петрык, падалося, хлімкаў.–Паехалі…

– Нічога, нічога,– супакоіў партызан Кавалькоў.– Яны сваё атрымаюць. Ні сёння, дык заўтра.

– А чаго ж вы так марудна?

– Няблізкі свет...

– Няблізкі..Эх!

Пра тое, што немцы хочуць вывезці Цар-Дуб у Германію, Петрык вырашыў партызану Кавалькову не гаварыць: малы начальнік. Таму запатрабаваў, каб яму дазволілі пакінуць дазор, бо ёсць больш важная справа.

– Гавары мне,– загадаў партызан Кавалькаў.

Бач, чаго захацеў! Табе скажы, аднак жа яшчэ невядома, хто ты на самой справе, партызан Кавалькоў, ці ўмееш трымаць язык за зубамі. А калі раптам даведаюцца усе? Нельга. Усё ж Цар-Дуб, а не нейкая там асіна-вольха.

– Мне ў штаб трэба!– строга сказаў Петрык.

– Хто цябе там слухаць будзе?– партызану Кавалькову не надта ж хацелася, вядома, каб нейкую важную навіну паведаміў самому Аляксандру Фёдаравічу Фёдараву, камандзіру Чарнігаўскага партызанскага злучэння, якое робіць рэйды на гэты час у тутніх лясах, нейкі там Петрык: падумаеш, фігура!

Партызан Кавалькоў цёгся ўслед за Петрыкам, дыхаў таму ў спіну, і шморгаў раз-пораз носам:

– Прадай навіну, Пецька Дарага куплю. Я табе патронаў насыплю поўную шапку. Чуеш? Тады мяне зноў старшым паставяць. Над усімі. І над табой. Я цябе ў крыўду не дам.

– Далей я сам буду свой карабін насіць,– сказаў, не аглядваючыся, Петрык.—Патронаў таксама дадуць. Патронаў багата. Я сам дзве каробкі прынёс. А навіну не прадам. Сёння навіну, заўтра... Сам, дзядзька, ведаеш, што можна заўтра прадаць – варта ў азарт увайсці.

Партызан Кавальчук не здаваўся:

– Шкадаваць будзеш. Шкадаваць. Ды позна будзе.

Што яшчэ сыпаў услед Петрыку партызан Кавалькоў, хлопчык не чуў – не да таго было: наперадзе паказалася стаянка брыгады, і ён па-сапраўднаму пачаў хвалявацца , а вартавы пазнаў сваіх, усміхнуўся і прамовіў:

– А-а, праходзьце, праходзьце! Як там, у дазоры?

Звычайна разгаворлівы партызан Кавалькоў на гэты раз маўчаў.

6

Пра Цар-Дуб было даведзена самому Гітлеру. Обер-лейтэнант Лотар Шмейхель стаяў перад ім навыцяжку, бы струна, і словы, што вылятаді з роту фюрэра, не паспявалі трапляць у шчылінкі вушэй—яны, бы крыгі ў крыгаход, навальваліся, напаўзалі адна на адну, а на іх іншыя, і ствараўся затор: стоп, далей ходу няма. Але ён, на той час яшчэ верны служака фюрэру, лёс якому выпаў асабіста дакласці Гітлеру пра дрэва, якое той марыць даставіць любымі сродкамі ў Германію, каб здзівіць свой народ, усё ж паспяваў запамінаць, што гаварыў яму і куды больш высокім і важным, чым Шмейхель, сваім падначаленым фюрэр:

– Мяне не хвалюе больш нічога, акрамя аднаго – Цар-Дуб павінен быць тут!– І ён тупнуў нагой, нібы ўбіў у падлогу абцасам цвік, а заадно і паказаў, дзе неабходна яму бачыць дрэва.– Тут! А як вы будзеце яго сюды дастаўляць—мяне гэта менш за ўсё хвалюе. Так-так. Хочаце па паветры, хочаце па вадзе... можаце будаваць чыгунку, можаце не будаваць, але калі не даставіце Цар-Дуб, тады ў мяне з вамі будзе іншая гаворка. Не думаю, што такая, як сёння. Абяцаю: кожны з вас атрымае тое, што заслужыў. У любым выпадку. А выпадкі, як вы разумееце, будуць два: або-або... Пытанні?

Пытанняў не было.

–Дзейнічайце! – і фюрэр ускінуў угору руку.–Хайль!

Обер-лейтэнант Лотар Шмейхель выйшаў з кабінета фюрэра ледзьве жывы, і калі вадзіцель запытаў у яго, куды ехаць, афіцэр , не вагаючыся, назваў вядомы ў Берліне рэстаран «Oder».

Першы раз у сваім жыцці Шмейхель напіўся.

І больш яго ніхто і нідзе з бліжэйшага атачэння Гітлера не бачыў.

7

Пасля таго, як Петрык прарваўся да камандзіра Фёдарава, Аляксандр Фёдаравіч пазнаваў яго і нярэдка, сустрэўшыся выпадкова дзе-небудзь на стаянцы каля штаба, распытваў пра жыццё-быццё. Хоць, вядома, ён і так ведаў усё, але ж пра нешта трэба было гаварыць.

Звычайная справа. Аднаго разу камандзір сказаў хлопчыку:

– Вось закончыцца вайна, і давай, брат, да мяне ў Кіеў. Памагу ўладкавацца . Будзем новае жыццё будаваць. Табе трэба вучыцца.

У Петрыка вельмі загарэліся вочы, ён глядзеў на Фёдарава, адчуваў нават, як палалі лоб і шчокі, а тады ўсё ж асмеліўся папытаць:

– А калі... а калі яна, таварыш камандзір, скончыцца?

– Вайна?

– Ага!

– Тут, брат Пятро, такая справа,– Фёдараў надзьмуў шчокі, пахітаў галавою, потым цмокнуў языком, і твар у яго зрабіўся сур'ёзным, заклапочаным.– Вось не дадзім мы вывезці Цар-Дуб у нямеччыну – і ўжо, лічы, перамога за намі. Не будзе фюрэр хвост яршыць. А?

– Мабыць...

– Не мабыць, а дакладна,– Фёдараў прытуліў да сябе хлопчыка.—На ўсе сто працэнтаў, Пятро. Не аддзім дуб?

– Не аддадзім, таварыш камандзір!

– Малайчына, Пятро, малайчына,– пахваліў хлопчыка Фёдараў, і моўчкі пайшоў далей, цікавіўся, што робяць партызаны. Спыняўся, размаўляў з імі.

Петрык чамусьці думаў, што і з імі размаўляў камандзір злучэння Фёдараў толькі пра Цар-Дуб.

А пра што яшчэ больш у той дзень можна было размаўляць?

Яму вельмі хацелася, каб хутчэй прыйшла перамога...

## 8

Немцы будавалі вузкалейку ўжо другі тыдзень, і партызаны сачылі за імі. Няхай папрацуюць, няхай. Усяму свой час. Бо калі разбурыць яе адразу ж, то карысці мала: сто метраў якіх пракладзена чыгункі. Знішчыш гэтыя сто, яны зноў пацягнуць яе далей. А вось калі знішчыш некалькі кіламетраў, дзесяць ці дваццаць... пасля гэтага яны ці ўздумаюць падбірацца зноў да Цар-Дуба? Наўрад. Прападзе ахвота. Непакоіла партызан і іншае: а што, калі, адчаіўшыся, фашысты захочуць знішчыць дрэва—каб і ні вам, і ні нам. Такое можа быць. Аднак дапусціць гэтага

нельга. Аніяк. Таму партызан Кавалькоў быў усё ж празначаны старшым па ахове Цар-Дуба, а Петрыка, хоць той і не прадаў яму навіну, вымушаны быў браць на заданне — хто ж яшчэ так спрытна, як ён, ускараскаецца на дрэва? Хіба што сам Кавалькоў! Смешна робіцца, як падумаеш.

У той дзень дождж ліў, бы з вядра. Партызан Кавалькоў дазволіў Петрыку злезці з дрэва, бо, сказаў, цяпер не лета, а восень, і можна падхапіць якую-небудзь хваробу. Справа няхітрая. «У паветры іх, хвароб тых, шастае процьму». Партызан Кавалькоў накідаў на нейкі куст, што быў паблізу ад Цар-Дуба, галля, і атрымаўся някепскі буданок.

– Кроч сюды,– паклікаў ён Петрыка.–На дрэве сядзець увесь час таксама нельга: яшчэ заснеш ды грукнішся.

Хлопчык пакрыўдзіўся:

– Яшчэ чаго!

– Не чагокай. Ведаю. Сам быў такім, як ты. Не адразу дзядзькам стаў. Пуд солі з’еў, сакрэту тут няма. Залазь, залазь пад куст. Куды карабін свой шчэміш? Пастаў яго пад дрэва...

– Няможна,– не пагадзіўся Петрык.–Я за яго распісваўся.

Партызан Кавалькоў хмыкнуў:

– Каму яна трэба цяпер, твая стрэльба? Пасля кожнага бою іх столькі збярэш, карабінаў-аўтаматаў, што іншы раз і грыбоў менш у лесе знойдзеш. Ну, сагрэўся?

– А я і не замерз!

– Глядзі ты!

– Цёпла.

Памаўчалі, пaглядзелі на Цар-Дуб, па вялікім і крэпкім, бы жасцяным, лісці якога церабіў дождж. Партызан Кавалькоў нешта успомніў, пэўна ж, прыемнае, бо ўсміхнуўся сам сабе, а да Петрыка сказаў:

–Відаць, у гэты самы час, калі мы тут з табой сядзім, даюць жару нашы хрыцам. Адчуваю, няма ўжо вузкакалейкі, хана ёй. Нават бачу, як рэйкі ўзлятаюць пад самыя аблокі...

– Так высока?– здзівіўся хлопчык.

Партызан Кавалькоў адказаў не адразу, спярша паскроб за вухам, а тады зрабіў сур’ёзны твар:

– Але і не нізка. Галоўнае, хлопча, не гэта... высока-нізка. Не гэта... Калі ўжо нашыя хлопцы пайшлі на вузкакалейку, то нічога з яе не пакінуць. Знішчаць. Ушчэнт разнясуць. Але ж, відаць, разкурочылі яе раней... ноччу, калі цёмна было і людзі на ёй не рабілі. Вяртаюцца, мабыць, ужо хлопцы. Скора будуць.

Петрык слухаў партызана Кавалькова і, здавалася, бачыў, як партызаны-мінёры падкладваюць пад рэйкі ўзрыўчатку, а потым адпаўзаюць ад дарогі падалей у лес, дзе іх чакае група прыкрыцця. Эх, самому б там быць! Петрык прасіўся, нягож, аднак партызан Кавалькоў усё сапсаваў: « А на дуб хто, акрамя цябе, узлезе?Які блазнюк? Са мной пойдзеш!»

Як старшым прызначылі, адразу нос задраў. Бачце вы яго, як размаўляе. Адразу–строга: «Са мной пойдзеш!»

Вось цяпер ён і сядзіць побач з гэтым партызанам Кавальковым, чалавекам увогуле не благім, аднак, на думку хлопачыка, дужа любіць ён над кім-небудзь быць старшым. Як цяпер вось над ім і яшчэ над трыма хлопцамі, якія для сябе зрабілі асобную хованку ад дажджу. Але пачакай, партызан Кавалькоў! Дай хоць трохі падрасці Петрыку! Тады пабачыш!..

Назаўтра ўся брыгада ведала, што вузкакалейкі больш няма, а каб немцы больш не падабраліся да Цар-Дуба, не адпомсцілі за чыгунку і не знішчылі дрэва, ахоўваць яго пачала вялікая група партызан: пакуль не стане вядома, што ў галаве ў тых немцаў.

Аднак яны больш каля Цар-Дуба не з’яўляліся.

Адбілі ахвоту партызаны.

9

Пра ўсё гэта расказаў унуку Мікітку дзядуля Пятро Мікітавіч, той самы Петрык, што даўным-даўно сядзеў на самым тоўстым суку на дубе, калі быў у дазоры. А вось на гэтым месцы пыхкаў нясмачным дымам партызан Кавалькоў. Няма, канешне ж, ужо яго на гэтым белым свеце — ён і тады быў ужо старым чалавекам, але ж вельмі любіў быць заўсёды старшым. Пасля вайны працаваў нават старшынёй калгаса, але мала: тады старшыні часта мяняліся. А Петрык і паехаў, як прасіў яго тады камандзір злучэння

Фёдараў, у Кіеў, знайшоў яго, і Аляксандр Фёдаравіч напісаў невялічкую паперку, але яна мела вялікую сілу: калі паказаў яе хлопчык у вайсковым вучылішчы, то там, мусіць, сказалі яму: «Такія арлы, як ты, Пятро, у арміі патрэбны!» І залічылі яго ў курсанты. Быў бы жывы партызан Кавалькоў, то на свае б вочы пабачыў, што той яго падначалены Петрык не абы-хто, а самы сапраўдны генерал. Хоць ужо і на пенсіі. Тады б паглядзелі, хто тут старшы!

Вось так, браткі-славяне!

...Цар-Дуб стаіць пасярод прыгожай агароджы, пафарбаванай у зялёны колер. Падыйсці бліжэй да яго ,каб назбіраць жалудоў, можна праз веснічкі. Але калі Пятро Мінавіч прачытаў на кары дрэва выразаныя складанчыкам, відаць, нікому не патрэбныя брудныя словы, у яго сапсаваўся настрой. І тады ён, стары генерал, папрасіў у Цар-Дуба прабачэння за таго нягодніка... Унук Мікітка здзівіўся:

– А ён, Цар-Дуб, пачуе цябе, дзядуля?

– Пачуе, пачуе, Мікітка. Абавязкова. Ужо шмат стагоддзяў ён усё бачыць і ўсё чуе. Шкада, што нічога нам, людзям, сказаць не можа...

Мікітка прачытаў на шыльдачцы, што стаяла асобна ў агароджы на слупку: «Цар-Дуб з’яўляецца помнікам прыроды... У вышыню 32 метры, у дыяметры—1,5, мае акружнасць 4,5 метры і шаноўны ўзрост 500 год. На вышыні 24 метры і вышэй размешчаны 6 сукоў, у адным з якіх пчолы зрабілі борць і ўжо некалькі гадоў жывуць у ёй і раяцца ...»

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

У нямецкай газеце «Neue Zeituhg» нядаўна было надрукавана інтэрв’ю з ветэранам антыфашысцкага руху Лотарам Шмейхелем, які пасля таго, як адмовіўся выконваць загад Гітлера, каб перавезці Цар-Дуб у Германію, перайшоў у падполле. На пытанне, што найбольш уразіла яго на вайне, што найбольш запомнілася і кранула, стары немец адказаў:

– Цар-Дуб. Такога волата я больш нідзе і ніколі не бачыў. Тых людзей, на зямлі якіх растуць такія дрэвы, перамагчы немагчыма. Шкада, што пра гэта не ведаў фюрэр...

# ВЯТРАК – ПТУШКА ВОЛЬНАЯ

## 1. ШТО ЦЁТКА НЕМЦАМ ПАКАЗАЛА

Прапаў у цёткі Аксінні певень. І куды падзеўся, небарака? Толькі ж швэндаў па двары сярод курэй, і – няма.

– Пеця, Пеця! – нібы нейкага хлапчука, клікала курынага кавалера старая. – Ну дзе ты, голуб мой? Хадзем дамоў, калі жыць хочаш, дурань ты непрыкаяны! Ці чуеш? Пачуеш, ды позна будзе. Адны костачкі застануцца. Вунь яны, бач – панаехалі! Злопаюць – і вокам не міргнеш! Як ніколі іх не кармілі. Бы з галоднага краю. Ага! Ну, дзе ж ён? Цы-ы-п-цып-цып!..

Старая і на гародчык зазірнула, і пад паветку: няма, як скрозь зямлю праваліўся курыны кавалер. Тады Аксіння шпарка, нібы падганяў яе хто дубцом, выбегла на вуліцу, сустрэла там суседскага хлапчука Юраську, і, хаўкаючы ротам, шмарганула за рукаў:

– Юр! Га, Юр! Ты пеўня майго не бачыў?

Адкуль яму, Юраську, бачыць таго пеўня? Хіба ж да яго цяпер, калі немцы ў вёсцы. Самыя сапраўдныя – пра якіх гаварылі па «талерцы» каля канторы калгаса, што напалі на наш Саюз. І нядаўна, здаецца, напалі, а ўжо ў Хатоўні аб'явіліся, ні ў каго не папытаўшы. Шустрыя, аднак. І адкуль бяруцца такія нахабнікі, папытаць бы? Юраська паназіраў трохі за няпрошанымі гасцямі здаля, з-за плоту, ды адразу ж і да хаты – бяжком, не азіраючыся: ну іх, немцаў тых! Расходжваюць, гергочуць, пагражаюць. Што да чаго! «Можа і певень цёткі Аксінні цяпер недзе ў іх? Бач, пазакасвалі рукавы... валасатыя рукі, нічога не скажаш: такія і цапнуць могуць што хочаш, за імі вока ды вока трэба». Але ж цётцы Аксінні адказаў, асабліва не разважаючы – тут не да філасофіі:

– Не бачыў. Трэба мне ён...

А потым паглядзеў на старую, і яму чамусьці зрабілася шкада яе, параіў хаваць курэй падалей ад немцаў, бо тыя, кажуць, дужа іх любяць – і смажаных, і ў чарапках з бульбай.

– Толькі падавай, – Юраська ажно прыцмокнуў языком, бо так, палічыў хлопчык, больш пераканае Аксінню,

дакажа нарэшце ёй, хто такія немцы. – А таму хавай астатніх курэй, цётка. З'ядуць.

– Ды з'ядуць, каб яны лопнулі! – пагадзілася Аксіння, хоць і сама не горш за хлапчука ўсё ведала. – Ды сажруць, каб ім затлуміла! Во ўжо ненасытныя! Во ўжо не напруцца!.. І не падавяцца ж!..

А Юраська прыгадаў, бы капнуў газы ў полымя:

– Без разбору, цётка Аксіння. У дзеда Нупрэя усіх падшкрэблі, бы венікам падмялі. Адным махам. Мне сам дзед казаў. Можа певень на пярэпалах-лямант курэй пабег, заступацца? Усё ж мужчына. Мог пабегчы, як думаеш, га?

Цётка Аксіння зусім, здаецца, разгубілася. Яна не ведала, куды ёй ісці – ці вяртацца дамоў, ці бегчы шукаць пеўня, ад якога, мусіць, толькі пер'е і засталося. На ўсялякі выпадак старая паказала рукой у той бок, дзе таўкліся немцы і адкуль чулася чужая, незразумелася ёй, гаворка:

– Певень, думаеш, туды шугануў?

– Усё можа быць.

– Не аддам! – нарэшце цётка Аксіння тупнула нагой, рашуча і смела. – Дудкі ім! Смалы! Во ім, а не пеўня! – І паказала кукіш.

Яна закруцілася на адным месцы, быццам трапіла ў віхор, лаяла немцаў, паказвала ў іх бок дулі, абяцала «смалы з дзёгцем», а тады знерухомела... і заплакала. Па-сапраўднаму. «Няўжо можна па пеўню так перажываць? – не надта разумеў цётку Аксінню Юраська. – Дзівачка яна ці што? Дзед Нупрэй і слова не сказаў, калі лавілі ягоных курэй. Толькі плюнуў сабе пад ногі... А калі немцы на каленях поўзалі, цаляючы па курах, дык і ўсміхнуўся, а мне шапнуў: «Мае куры, бач, на калені немчуру паставілі, а прыйдзе час, то мы іх і на лапаткі пакладзем. Няхай пацешацца...»

Юраська ўжо пераступаў парог сваёй хаты, а цётка Аксіння ўсё яшчэ сыпала праклёны немцам:

– Смалы вам! Дзёгцю, калі калгас дасць! Во вам, во!..

У той жа дзень немцы разбрыліся па ўсёй вёсцы, нарабілі лямант, тлуму, і паўсюль чулася іхняе гергетанне, да якога не маглі прызвычаіцца жыхары Хатоўні: рэжа слых, хоць ты што рабі. Курэй сваіх, навучаная ўжо горкім вопытам, Аксіння пахавала, што выклікала, зразумела ж,

падазронасць у варожага салдата, які нагой піхнуў дзверы ў хату і выскаліў на старую белыя зубы:

– Кур, яйка! Дзе твой цып-цып? – салдат пачаў шныраць па хаце, разглядваў краем вока карткі на сцяне, глянуў на прыбраны ложак, на якім стаяла адна, але вялікая і пузатая, бы стог сена на лузе, падушка. – Так, швайн баба! Кур, яйка!

– Няма... няма, – лыпала вачыма і разводзіла рукамі Аксіння. – Забралі ж. Разам з пеўнем. Ага. – А трохі цішэй, каб не надта чуў няпрошаны госць, баіла: – Каб ты струпянеў са сваімі яйкамі! Каб ты загавеў раней бацькі свайго! Цьфу!..

Неўзабаве старая выкацілася на двор, услед за ёй паказаўся і немец. Юраська якраз быў на сваім агародзе, і ўсё гэта бачыў. Старая, мусіць жа, таму і пасмялела, што побач сусед, таму адразу ж перайшла ў наступ:

– Шукай! Знаходзь! Калі не верыш! Распуснікі!...

Салдат адказваў нешта на сваёй мове Аксінні, але гэта было што гарохам аб сценку – адна карысць: не прыставалі да яе тыя словы, больш здагадвалася, чаго хоча немец па выразу ягонага твару і жэстах.

Юраська ўважліва сачыў за ўсім, што адбывалася на двары цёткі Аксінні. «Ого, так і аддасць яна табе сваіх курэй. Трымай рот шырэй. Аўтаматам не запалохаеш. Не палахлівая яна». І хоць Аксіння жмінда вялікая, іншай такой у Хатоўні і знайсці цяжка, хлапчук вельмі радаваўся за суседку. «Так яму, так... Не аддавай! Не паказвай, дзе куры! Ага, схапіў, атрымай! Гэта дуля па-нашаму. Смачная? У Аксінніным агародзе яны ўсе такія растуць. Яна табе мех іх, як завязаць, накруціць. Яшчэ і аўтамат, калі хочаш, адбярэ. Вось так, вось добра!... Не паказвай, ага-а-а!» Юраська ажно дырыжыраваў рукамі, не стаялі на адным месцы і ногі – то адной, то другой хлопчык быццам дапамагаў Аксінні ў яе абароне і наступленні. Немец жа махаў перад тварам цёткі і аўтаматам, і кулаком, але тая трымалася надзвычай стойка. Урэшце Аксіння нават ухітрылася адвесці ў бок ад сябе варожы кулак ды паказаць сваю фігурку з трох пальцаў, крутануць ёю перад доўгім фрыцавым носам. Немец патупаў-пахадзіў яшчэ трохі па двары, пафыркаў, а пасля са злосцю бацнуў

